

*Першая кніга паэта*

УЛАДЗІМІР ДЗЮБА

# ВУЛІЦЫ БЕЗ НАЗВАЎ

*УЛАДЗІМІР ДЗЮБА*

# ВУЛІЦЫ БЕЗ НАЗВАЎ

*

Уладзімір Дзюба нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці. Пасля заканчэння Патапаўскай дзесяцігодкі паступіў на філфак Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна, які скончыў у 1968 годзе.

Пасля заканчэння універсітэта служыў у арміі. Зараз працуе літсупрацоўнікам у абласной газеце «Гомельская праўда».

Вершы маладога паэта друкаваліся ў часопісах «Полымя», «Маладосць», «Беларусь», «Вясёлка», а таксама ў альманахах і газетах.

## ВЫТОК

# Вянок санетаў

1

Дзень добры, нафта,— даўняя з крыніц!
Табе зрадні няскораная сіла,
Якая абудзілася, вірыць,
Струменіцца за межы небасхіла.

У гэтым — прага першаадкрыцця
І подзвіг неўміручы, чалавечы.
Выходзім дружна на прасцяг жыцця,
Якому ў помач — розум наш і плечы.

Парыў душы і дужасць нашых крыл.
Мы з кожнай новай вышынёй узятай
Наступнай трызнім вышынёй крылатай.

Тут, на зямлі, наш вырас дзівасіл,
І мы спазналі веліч творчых сіл
Зямлі-матулі шчодрай і багатай.

2

Зямлі-матулі шчодрай і багатай,
Якая мне чужою не была,
Я ўдзячны, што яна гула набатам
І продкаў нашых звала да святла.

Я — сын яе і ёю ганаруся
І толькі аднаго ў жыцці хачу,
Каб думаць і каб дыхаць Белай Руссю,
Каб вечна спеў яе дзівосны чуць.

І сам сябе даўно лаўлю на думцы,
Што трэба мне душою не крывіць,
Зямлёю продкаў шчыра даражыць,

Як даражаць ёй дрэвы-аднадумцы,
З крыніц яе моц-сілу браць імкнуцца,
На ёй, зямлі, і мне крынічна жыць.

3

На ёй, зямлі, і мне крынічна жыць!..
Ды запярэчыў тут зямляк-вандроўнік:
«Рамантык я і здолеў палюбіць
Сібір, Каўказ, цалінных даляў роўнядзь...»

Яму я пра Палессе расказаў
З яго бязмежжам і гарывадою,
Дзе з кожнай хвояй лёс мяне звязаў,
Дзе сцежкі ўсе прайшоў я пехатою.

І ён сумеўся: «Ты прабач, зямляк.
Ад сцежкі, ад парога роднай хаты,
Адтуль, дзе нарадзіўся, шлях пракладвай,

Свой гераічны, свой цярністы шлях,
Бо мае права кожны — у вяках
Сцвярджаць сябе усёй жыццёвай праўдай».

4

Сцвярджаць сябе усёй жыццёвай праўдай,
У космас мкнуць і ўзводзіць гарады —
Такія мы, такі наш век дваццаты,
Напружаны, імклівы, малады.

Упэўнена трымаем мы раўненне
На мужны ўсплёск кастрычніцкіх сцягоў,
З якімі нас нястомны геній — Ленін
Дарогай светлай па жыцці павёў.

Да камунізма блізіцца прастора,
Плячом к плячу — цясней працоўны люд.
На ўсіх адзіна правільны маршрут —

Да шчасця! Каб крынічыла, як мора,
Каб заўтра лепш жылося, чым учора —
Няхай жа б'юць фантаны там і тут!

5

Няхай жа б'юць фантаны там і тут,
Нястомныя, і дзень і ноч шчыруюць
Пад спеў калосся, пушчаў перагуд,
Там, дзе пачуў легенду я такую.

Блакада. Акружэнне. Немцы. Смерць.
Народ фашыстам не хацеў скарыцца.

Дзяцей, жанчын, сагнаўшы пад павець,
Рашылі смагай замарыць чужынцы.

«Вады, вады...» — і тухне бляск вачэй.
Да матчыных грудзей хінуцца дзеці,
А смерць блукае, ходзіць побач дзесьці,

І тут — о дзіва!— зазвінеў ручэй.
Ён праз гады спявае ўсё званчэй —
Тут, на зямлі, і там, у паднябессі.

6

Тут, на зямлі, і там, у паднябессі,—
Хвала табе, рабочая рука!
І апяваюць, славяць на Палессі
Сучасніка майго — нафтавіка.

А ён — звычайны, не шукае славы,
Ён ведае усіх нафтавікоў
Нялёгкі лёс, але наўздзіў цікавы,
Святочны ад вяселляў і вянкоў.

Пад гэтымі вянкамі — маладыя,
Якіх чакае ўжо застольны кут.
Не парушайце сцішаных мінут:

Кахаюць сэрцы шчырыя, зямныя!
Перад нягодай выстаяць такія —
Узнёслай працай можна здзейсніць цуд!

7

Узнёслай працай можна здзейсніць цуд:
Згадаем крокі нашых пяцігодак,
Бо што ні крок—шчаслівым дням салют,
І што ні крок — твой подзвіг, аднагодак!

Такім цябе і бачыў паляшук,
Які глядзеў і пільна і далёка,
Які казаў: «Не пашкадуем рук,
Каб над дрыгвою сонца ўзняць высока!»

І нафтавышкі — помнік тым рукам,
Якія сонца над зямлёю ўзнеслі.
Дык слава ж вам, Сцяпаны і Алесі!

Я забыццю вас, продкі, не аддам.
Насустрач шчасцю крочу я і сам —
Гарывада сагрэла нашы песні!

8

Гарывада сагрэла нашы песні —
Мо ад таго, што ўмеем мы спяваць
І ў полі раным-рана напрадвесні,
І выйшаўшы на луг, на сенажаць!

Ах, як зацягне песню першы голас:
«Мне, сіраце, ў жыцці спаткаўся ты...»

А другі голас: «...колас ты мой, колас...»
І трэці голас: «...колас залаты!..»

О не, ніхто не ўбачыць нашы слёзы.
Мы песню-сум звядзём заўжды на жарт
І прамаўчым, што каля нашых хат

Чацвёртай кожнай нестае бярозы...
Гаючыя крыніцы ў нас і росы —
Такі ён, дух наш, і такі ўжо гарт!

9

Такі ён, дух наш, і такі ўжо гарт —
Прысню, што да мяне вярнуўся бацька.
Ён, здзіўлены, глядзіць на нафтаград,
З ілба спаўзла запыленая каска.

Ён не прыйшоў з вайны тае назад —
Не ўмеў, як раб, ён падаць на калені.
Будаўніком быў бацька мой. Я рад,
Што ўзяў яго прызванне на ўзбраенне.

І не злічыць глыбінных свідравін,
Дзе пошук мой гарывадою ўспеніў.
А колькі будзе іх, такіх імгненняў,

І колькі будзе радасных хвілін!..
Нашчадкам спраў бацькоўскіх стане сын —
І светлых дум, і велічных імкненняў!

10

І светлых дум, і велічных імкненняў
Нам, маладым, напорыстым, стае,
Бо прагнем мы сваіх зямных здзяйсненняў,
І гэта нам спакою не дае.

Знайшоўшы нафту, мы сябе знаходзім.
Спазнаўшы край свой, спазнаём сябе.
Ніколі і не думаў з нас ніводзін,
Што можа здрадзіць светлай барацьбе,

Бо мы сагрэты мужнасцю бацькоў.
Мы ўнукаў іх гушкаем на каленях
І хлеб заечы дастаём з кішэняў —

Сыны ў пасляваенных хлапчукоў!
Не знікне радаслоўная вякоў —
Выток, што з нетраў самых заструменіў!

11

Выток, што з нетраў самых заструменіў,
Мне свет майго дзяцінства нагадаў,
Калі хадзіў ля хаты змрок вячэрні,
А я пры лямпе Коласа чытаў.

І тут мне маці: «Не сляпіся, сынку.
Гляджу — сядзіш во, ночы навылёт...»

І я, прыўзняўшы вочы на хвілінку,
У лямпе ўбачыў нагарэлы кнот.

І газы болей не знайшлося ў хаце,
Той, што разжыўся дзесьці матчын брат.
Але жыццё гуло на новы лад:

Вучыцеся — пішыце і чытайце!
Хто вучыцца, той са шляхоў, дзе шчасце,
Ніколі не павернецца назад.

12

Ніколі не павернецца назад
Народ мой з заваёваных вышыняў,
Народ — плугар, і сейбіт, і салдат.
Ён вырас, ён узняўся, не загінуў!

І думкі нашы сёння мкнуць ракой
У будучыню, да стагоддзяў новых.
О як хачу я, каб нашчадак мой
Нас зразумеў,— і добрых, і суровых.

Каб ён памножыў нашы перамогі,
Ішоў далей, наперад не наўгад:
Упісваў нафтавышкі ў далягляд,

Звяраў свае шляхі, свае дарогі
І па здабытках нашае эпохі...
Усім натхнёным дадзена зашмат!

13

Усім натхнёным дадзена зашмат!
Нялёгка гартавалася натхненне.
Быў край, быў век, быў стоены пагляд,
Былі ў вачах і роздум, і здзіўленне.

Мастак укладваў душу ў палатно —
Каторы раз выводзіў вочы, вусы,
А потым — хату, цьмянае акно:
Маўляў, яны такія, беларусы.

І раптам — нафта, штольні, гарады.
І безліч і здагадак, і сумненняў.
Так беларус усіх даўно запэўніў,

Што ён звычайны, просты, не святы.
О Беларусь, заднела песняй ты
І нам самім, і новым пакаленням.

14

І нам самім, і новым пакаленням
Маю зямлю нанона адкрываць
І многа звонкіх сонечных праменняў
У воблік краю роднага ўплятаць.

А як свой край любіць заўсёды трэба,
Дзе шыр лясоў, і сінь імклівых рэк,

І далі, і блакітны купал неба —
Усё тваё, руплівы чалавек.

Які прастор тут для шчаслівай долі!
Прыгожа можна і заможна жыць.
І ўжо ніколі не парвецца ніць

З людзьмі, якім спяваецца міжволі,
Хвалююча і светла, як ніколі:
«Дзень добры, нафта,— даўняя з крыніц...»

15

Дзень добры, нафта,— даўняя з крыніц
Зямлі-матулі шчодрай і багатай.
На ёй, зямлі, і мне крынічна жыць,
Сцвярджаць сябе усёй жыццёвай праўдай.

Няхай жа б'юць фантаны там і тут —
Тут, на зямлі, і там, у паднябессі:
Узнёслай працай можна здзейсніць цуд —
Гарывада сагрэла нашы песні!

Такі ён, дух наш, і такі ўжо гарт
І светлых дум, і велічных імкненняў:
Выток, што з нетраў самых заструменіў,

Ніколі не павернецца назад —
Усім натхнёным дадзена зашмат —
І нам самім, і новым пакаленням.

## ВУЛІЦЫ БЕЗ НАЗВАЎ

Нейкі,
Пэўна,
Кемлівы хлапчук
Разгадаў настрой наш,
Нашы словы,
І з-пад добрых хлапчуковых рук
Выплыў свет нязнаны,
Новы-новы.
На асфальце намалёван горад —
Магістралі,
Вуліцы,
Масты,
На якіх сышліся я і ты
І стаім здзіўлёна,
Не гаворым.
Дык пайшлі ж у гэты свет,
Пайшлі —
Па жыццю,
Па вуліцах без назваў,
У якім дагэтуль не жылі,
Пра які ніхто нам не расказваў.

## МЛЕЧНЫ ШЛЯХ

Млечны Шлях,
Млечны Шлях...
Ты шукаеш яго па начах
І пытаеш бясконца ў мяне,
А які ён:
Цярністы ці не?
Пэўна,
Ты не хадзіў па снягах,
І снягоў тых іскрыстая бель
Не сляпіла да болю цябе —
Як Млечны Шлях.
Пэўна,
Ты не блукаў па жытах,
Калі ў сілу бяруцца жыты.
Акіян каласіцца густы —
Як Млечны Шлях.
І не спіцца тады па начах...
Ты ж пытаеш бясконца ў мяне,
А які ён:
Цярністы ці не
Твой і мой
Млечны Шлях...

## РАЗМАЎЛЯЮЦЬ БАЦЬКІ З СЫНАМІ

У бацькоў за плячыма —
Дарогі,
У сыноў — неабдымны прасцяг.
У бацькоў за плячыма —
Трывогі,
І натхненне — ў сыноўніх вачах.
Іх бацькі у паходы хадзілі,
Уступалі з чужынцамі ў бой.
За плячыма сыноў б'юцца крылы,
Неба зорнае —
Над галавой.
Астываюць ствалы кулямётаў,
Ля салдат ціхаюць баі.
Прага новых вышынь і палётаў —
У сыноўняй гарачай крыві.
Так бацькі размаўляюць з сынамі,
Мне іх лёс непарыўны відзён:
Поплеч,
Разам праходзіць шляхамі
І пражытых
І будучых дзён.

## ВАЕННАЯ ДВУХПУТКА

Тук-тук...
Так-так...
Паўстанкі.
Далі.
Сябры
І песні заадно.
І раптам побліз магістралі
Другое ўгледжу палатно.
О беларуская чыгунка!
І зноў напоўніць гулам даль
Твая ваенная двухпутка —
Гадоў мінулых магістраль
Ці веснаход,
Ці сівер люты —
Яна грыміць штодня,
заўжды.
І нарастае гул магутны —
На фронт імчацца паязды.
І абганяюць эшалоны
Гул пасажырскіх цягнікоў.
Грымяць таварныя вагоны.
Байцы,
Байцы з усіх бакоў.

Крычу,
Махаю я ім з далі —
Іх, невясёлых,
Не ўпрасіць,
Каб і мяне
На фронт узялі,
Каб мне,
Як ім,
На фронце быць.
Яны — байцы,
Яны — салдаты,
Вядуць гаворку між сабой
І едуць...
Можа ў сорак пяты?
У свой апошні можа бой?
А беларуская чыгунка
Удзень і ўночы будзіць даль —
Грыміць ваенная двухпутка,
Гадоў мінулых магістраль.

## ПЕРШЫ ДЗЕНЬ ВАЙНЫ

Бой смяртэльны,
Бой няроўны —
Зноў заходзіць «месершміт».
І свінец —
Дажджом на кроны,
І крывавіць краявід.
І нічога не паробіш:
Ён
  як коршун
              наляцеў.
Перад ім усё тут дробязь —
Хата,
Лес
І... я між дрэў.

## ХЛАПЧУКІ

*Бацьку, які загінуў, калі яму было*
*столькі ж, колькі зараз мне*

Хлапчукі,
Хлапчукі...
І пажоўклае фота
Падае з матчынае рукі.
Мама,
Навошта глядзець у роспачы.
Гэта праўда:
Мёртвым не ўзняцца.
Прыгадала яго ты ў салдацкім,
Свайго мужа,
А майго — бацьку.
Мне ад позірку твайго балюча —
Я без бацькі спаткаў юнацтва.
Кажаш,
Я на яго падобны,
Толькі вочы твае ў мяне.
Яшчэ некалькі год міне,
Зноў успомніш усё па парадку,
Зноў з тваёй ласкавай рукі
Выпадуць фотакарткі,
І ты будзеш шаптаць:
— Хлапчукі, хлапчукі...
Хлапчукі...

## ТЫ ПОМНІШ, МАЦІ...

Ты помніш, маці, заручыны?
Глядзеў дзед вачыма балючымі
На хлопца крэпкага,
                    дужага:
— Дачка,
То ж паслаў бог бацьку і мужа вам,
Вам —
Сыну твайму і табе...
А я да цябе падбег,
І як закрычаў я:
— Мам,
Нікому цябе не аддам!
І доўга айчым засмучаны
Глядзеў на пасаг
                табой скручаны
У тугія вялікія клункі...
Твае жаночыя рукі
Шыю яго абаўюць.
З палёгкай усе ўздыхнуць
І ўслед памахаюць рукой —
Ён павядзе нас з табой
За сабой.
І слёзы тут не пры чым:
Хацеў стаць бацькам айчым.

# РАВЕСНІКУ КАЗЕЯ

Вер,
Казей зразумее мяне і цябе,
Прывітае,
Як сябра, усмешліва.
Вось ён з помніка сыдзе,
Снег абаб'е,
Снежку злепіць паспешліва.

Аднагодку свайму ты прабач,
Калі тая снежка Маратава
Жартаўліва ўзляціць —
Сам пабач!—
І ў цябе трапіць,
хлопчык,
раптам.

## САМАЛЁТ

Дзе дрэвы —
Аж да сонца, навылёт,
Над галавою —
Купал неба звонкага.
Стаіць там серабрысты самалёт,
Вялікі птах,
Што зжыўся з паркам Горкага.
Але здаецца мне,
Што ноччу ён,
Вялікі,
Легкакрылы
І напружаны,
Бярэ імклівы паміж дрэў разгон
І нейкі час над паркам сонным кружыцца.
А потым набірае вышыню
І там жыве,
Пакуль не прыйдзе раніца.
І за крыло,
Нібы за даланю,
Дзень новы з самалётам прывітаецца.

* *

Калі вясной залье лугі без краю,
Калі куды ні глянеш —
Далячынь,
Зямля мая,
Зялёная такая,
Удумліва-затоена маўчыць,
Каб потым абудзіцца ўсім раздоллем,
Гаючай ласкай сонечнага дня —
Калі жаўрук звініць, звініць над полем
І першая дыміцца баразна.

## АСЦЯРОЖНА — ЛЕС!

Асцярожна — лес!
Зусім дарэмна
З недаверам перасцерагаць
Ласяя,
Які між лесу дрэмле,
Птушак,
Што над дрэвамі ўзляцяць.
Усё роўна ціш ад шуму трэсне —
Правядзе лясун па барадзе.
І сцяжынка ад грыбнога ўзлесся
Прама ў глуш лясную павядзе.
З капытка ласінага нап'юся
Ранішняе золкае вады
І знянацку раптам заблуджуся,
Каб злавацца на сябе ж тады.
Я здарожуся,
Стамлюся, мабыць...
Буду думаць:
— Ну, куды я ўлез?
І засну,
І мне прысніцца надпіс:
«Асцярожна — лес!»

## СОНЕЧНЫ БОК

*Рукадзельніцам Хойніцкага раёна прысвячаецца*

Сонечны бок Адарчынай хаты.
Сцяна — са звонкай сасны,
А ў ёй чатыры квадраты —
Чатыры акны.
Відаць праз іх
Сонца ўсход
Кожны дзень,
Кожны год.
І, нібы на далоні,
Сяло.
Адарка жыла —
Сяло гуло.
Дні сплывалі,
Падзеі і даты
І ўсё —
Па сонечным баку хаты,
Кладучыся ўзорамі
На твар і на пражу.
І Адарка святлела адразу,
Працавала ў радасці дзён
Пад песні хойніцкіх верацён.
Харашэла, нібы нядзеля:

Промні сонца ў руках —
Як кудзеля!
І была ў гэтым доля праўды —
Надта ж быў сонечны бок яе хаты,
Адарчынай хаты.

## СУСТРЭЧА Ў СТЭПЕ

Нават горкі палын
На імгненне прылёг.
І не змог я злічыць,
Колькі цокала ног.
Ускапычаны стэп,
Як шалёны,
                скакаў.
Пыл — на грывах сівых,
Пыл на конскіх баках.
Знік за даллю табун...
І ўявіць я не змог,
Як не збіла мяне
Столькі ног,
                столькі ног...

* *

Гавораць людзі,
Што ёсць рай і пекла,
Хаця даўно не верыцца ў той свет...
А кажуць,
Шчасце некага аббегла,
А кажуць,
З гора хтосьці пасівеў.
Ды чалавек —
Дай толькі нарадзіцца —
Імкнецца зазірнуць за небакрай:
У пекле —
Не баіцца абпаліцца
І не баіцца, што абкорміць рай.

## РЫБАЧКІ

А можа ты была ля мора
І можа зможаш расказаць,
Як мора шкваліць
і як моляць
Рыбачкі ўсіх прыплыць назад.
Бо там,
Нібы без краю, прыстань,
Там адплываюць рыбакі.
І многа хустачак агністых
Над галавой —
як дзве рукі.
Адной рукі, напэўна, мала,
Каб добрым плаванне было...
І мора ў гэты час не шкваліць.
І неба ў гэты час,
як шкло.

## РАЗВІТАННЕ

За край ружовы далягляда
Усё ўцякалі цягнікі.
І ты наіўна-вінавата
Глядзела ўслед ім з-пад рукі.

І шпала прад табой, як клавіш,
І рэек спеў, і зноў гудкі...
Ты, ўзняўшы рукі,
Адпраўляеш,
Нібы спыняеш, цягнікі.

## ПУШЧА

Вочы раптам расплюшчацца,
Я гляджу, я хачу глядзець,
Як шуміць векапомная пушча,
Як шуміць яна
Ноч
І дзень.
Грудзі насцеж — ля векапомнае.
Травастой я кашу,
І ты —
У пушчанскае
Невядомае
Заляцела ка мне сюды.
Мяне высачыла,
Убачыла...
Можа так вось яно і лепш:
Ты ідзеш да мяне,
Ускудлачанага,
І сняданак цёплы нясеш.

## СВАЯ КАЗКА

Сабе снягурку я зляплю
Ўдалечыні ад злога вока.
Зляплю і шчыра палюблю,
Хоць палюбіць зіму нялёгка.

Знайду ў снягурцы ціхі сум
І бездакорную цнатлівасць,
Невычарпальную красу,
Характар стоена-маўклівы.

Не палічу за нейкі грэх,
Калі ў мароз ці завіруху
Снягурку доўга буду грэць,
Пакуль, нарэшце, сам не стухну.

# БРАСЛАЎ

Кажуць,
Толькі ў мурог твой мяккі
Поўнач росаў насыпле і зор,
Як збіраць іх выходзяць русалкі
З тваіх чыстых,
Сініх азёр.
Хоць не верыцца ў казку-згадку,
Не паддамся я недаверу.
Абяцаю,
Што высачу ўкрадкам
Русалку,
Адзіную мне і верную.

## БАЛАЛАЕЧКІ-ЛОДКІ

Балалаечкі-лодкі
Перапоўнілі сінь вачэй,
Балалаечкі-лодкі
Падплываюць яшчэ і яшчэ.
А твая,
        невялічкая,
Хоча з боку падплыць,
Сінь вачэй маіх вычарпаць,
І спакой, і цяплынь.
Балалаечка-лодка
І не лодка зусім,
Балалаечка проста
Хоча сэрца ўпрасіць.
Я сяджу растрывожаны,
Я гляджу на цябе.
Разліваецца пошчакам
Балалаечны спеў.
Дзе ж вы,
        вусны дзявочыя?
Ах, імгненнасць хвілін...
Сам прыдумаў я лодачкі,
Хай плывуць,
                як плылі.

* *

Люблю вясковыя вяселлі.
Хачу бываць на іх часцей.
Там за сталы яшчэ не селі,
Чакаюць некага з гасцей.
Гляджу — сам сват падсеў да сваццi.
Затупаў цесць туды-сюды.
І —
Надта ж ціха стала ў хаце!—
Увёў нявесту малады.
Ды ад яго ў хвіліну ж тую
Адгарадзілі маладую,
Загаманілі, загулі,
Нібыта пчолы ў вуллі.
І трэба ж хлопцам згаварыцца
(У белы свет ад смеху б збег!),
Як закрычалі:
— Маладзіца,
Гані-тка ведзьму ад сябе..
Нявеста густа чырванее:
— Якую ведзьму, хлопцы! Га?
— Ды тую ж самую,
што ўмее
Жыццё ўсё мучыць жаніха.

* * *

Што ні думай,
Што ні гавары —
Пра шары благое не гаварэць.
Рознакаляровыя шары
Ёлку навагоднюю ўпрыгожаць.
У шарах —
                    падфарбаваны свет:
Сіні,
        жоўты
                і крыху ружовы.
За сталом святочным твой сусед —
Паглядзі!—
Стаў рознакаляровым.
Свецяцца шары,
                        шары,
                                шары...
Блікі,
        блікі...
                Шклянак перазвоны...
І такі настрой ва ўсіх цудоўны,
Як і тыя звонкія шары!

ЗМЕСТ

**Дзюба У.**

Вуліцы без назваў. Мн., «Мастацкая літаратура», 1972.

40 с. 3000 экз. 10 к.

Большасць вершаў У. Дзюбы сведчыць аб тым, што дзяцінства яго прайшло ў цяжкія пасляваенныя гады.

7-4-3 / 164-72 Бел 2 Д 43

На белорусском языке

**Владимир Иванович Дзюба**

**Улицы без названий**

Издательство «Мастацкая літаратура» Государственного комитета Совета Министров Белорусской ССР по печати. Минск, Ленинский проспект, 79.

Рэдактар В. Галавач. Мастак С. Кавалёў. Мастацкі рэдактар І. Славянін. Тэхнічны рэдактар З. Сень. Карэктар А. Сачкова.

АТ 9151. Зладзена ў набор 14/I 1972 г. Падп. да друку 26/IV 1972 г. Тыраж 3000 экз. Фармат $60 \times 84^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 1,16. Уч.-выд. арк. 1,0. Зак. 110.
Цана 10 кап.

Друкарня «Чырвоны друкар» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў Беларускай ССР па друку. Мінск, зав. Калініна, 12.

